# ПЧОЛЫ І ТРУЦЕНЬ

На пчол вядомы Труцень абураўся:
— Гулёны! І куды Пчаляр глядзіць?
Няўжо не бачыць: ранак ледзь заняўся,
Яны мяне пасмелі разбудзіць,
Домік пакінулі
і паляцелі разам з маткай.
І слыху цэлы дзень няма ад іх.
Ды што збіраюць нейкія узяткі
На красках лугавых?
Ну як цярпець такое можна:
Сярод дня
У іх гульня?
Не пацярплю! Ім не дарую я!
І Труцень напісаў сігнал трывожны.
А пчолак працавітая сям'я
Не парушала распарадак
свой штодзённы.
Карысную рабіла справу,
Мядок збіраючы на славу,
Хоць і трывогу білі пустазвоны.
Пчол нават прыязджалі правяраць,
Як парушальнікаў закона.
А што ім заставалася рабіць, гулёнам?
На плёткі не зважаць!

---

Нярэдка іншы Труцень,
Найпершы кар'ерыст і хам,
Не робячы нічога сам,
Імкнецца працавітага атруціць
І сапсаваць яму настрой надоўга.
Чаму ж мы церпім Трутня вось такога?

**Яўген Крупенька**




# НІЎКА



### НЕБАРАКА-ПАДАРОЖНІК

— Ці ведаеш ты Югаславію?
— Так.
— А Крым?
— Таксама.
— А дзе прыемней адпачываць?
— Не ведаю. Усюды ездзіў я з жонкай і дзецьмі.

### СВАРКА

Пасля сваркі разжаленая жонка крычыць да мужа:
— Я хацела б памерці!
— Я таксама.
— То я ўжо не.

### БЕЗ ВЫБАРУ

У перапоўненым аўтобусе адзін з пасажыраў у час скандала крычыць другому:
— Не пхайцеся на хама!
— А ці ў гэтай таўкатні можна выбіраць?

### КАМЕРСАНТ

Да бацькоў малога Міколкі маюць прыйсці госці. Маці павучае яго:
— Калі праз увесь вечар будзеш паслухмяны і не скажаш ні разу „халера", дам табе сто злотых.
— Але я ведаю такое слова, якое вартае прынамсі пяцьсот злотых.

### ПЕРАБОРЛІВЫ

У ачуцінаўскім матэлі павесілі таблічку:
„У нас начаваў Напалеон з паняй Валеўскай. Чаму не мог бы і ты?"
Праз нейкі час з'явілася заўвага:
„Пані Валеўская не ў маім гусце".

### СНЕДАННЕ

— Ці ты ўжо снедаў?
— Не, яшчэ ні кропелькі не меў у роце.



**Быў цэласнай натурай, але з часам здрабнеў.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Размаўляюць два шатландцы.
— Ты яшчэ не ажаніўся? Дык ты ўжо два гады ўдавец...
— Разумееш, мяне ўжо знаёмілі з некалькімі кандыдаткамі і з усіх бакоў яны былі добрыя, але...
— Што ты не палюбіў?
— Ды не, не ў гэтым справа. Бачыш, ні адна з іх не была хворая туберкулёзам.
— Туберкулёзам? Навошта табе гэта?
— Разумееш, мая нябожчыца жонка хварэла туберкулёзам, і пасля яе смерці засталося лякарства. Вось я і думаю — не прападаць жа яму!

*

На Дзікім Захадзе сустракаюцца два каўбоі.
— Ты нешта зусім зазнаўся, Джэк, — гаворыць першы.
— У якім сэнсе?
— Учора я выпусціў у цябе цэлую абойму, а ты нават не павярнуўся!

*



**— Ты чуў, любы! Цяпер твае фота з'явіцца ва ўсіх газетах.**

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА

Ломаўская прафесіянальная школа ўдзяляе вялікую ўвагу вытворчай практыцы вучняў. Калі на тэарэтычных занятках хлопцаў вучаць, як трэба працаваць, то пры наведванні заводскіх цэхаў яны бачаць, як працаваць не трэба.

### ПАРАДА

Перш чым есці поедам падначаленых, рэкамендуецца спецыі іх у парашок.



## МІНІВЕРШЫ

### ВЫСАКАРОДНЫ

Ён птушка невысокага
палёту,
Але ў яго „высокі" клопат:
Ён безупынку ўсё грабе,
І ўсё сабе і для сябе.

**Язэп Кудзеля**

### ХВАЛЬКО

Расказваў Рак
Суседзям ганарліва,
Што ён запрошаны
На кухаль піва.

**Уладзімір Мацвеенка**



## Курёзы

### ЕСЦІ НАЛІТА!

Можна ўявіць сабе здзіўленне гаспадынь у Рангуне, калі ў бірманскай сталіцы з кранаў разам з вадою пацяклі... крэветкі. Загадка неўзабаве высветлілася. Справа была ў час тхінджана — бірманскага Новага года. Галоўная асаблівасць гэтага свята — усе паліваюць адзін другога вадою. Натуральна, разыход вады ўзрос, сістэма водазабеспячэння працавала з максімальнай нагрузкай, і дробныя прэснаводныя крэветкі, што жывуць у некаторых вадаёмах, былі захоплены магутнымі помпамі.

У некаторых дамах „водаправодны ўлоў" быў настолькі багаты, што пачастунку хапіла на ўсю сям'ю.



**Сярэдневяковая мараль**

Навошта змагацца са сваімі недахопамі, калі навокал столькі чужых?



**Хваляцца сваімі добрымі якасцямі, як правіла, тыя, у каго іх не надта многа.**